Беларуская газета

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...

Я. КУПАЛА



# СУМЕЖЖА

№1(85) Заснавана ў 1991 годзе Чэрвень 2000 г.

## СЛОВА НА ВІТАННЕ.

Існаванне незалежнай прэсы ў нашым раёне мае ўжо сваю, хоць і досыць сціплую гісторыю. У 1991 годзе, якраз напярэдадні путчу, пачала выходзіць у Паставах незалежная газета „Сумежжа". Яна была сустрэта прыхільна тымі, хто ўжо хацеў шукаць у газетах расказ аб мясцовым жыцці не толькі ў ружовых танах і з абавязковай падзякай уладу маючым. І варожа тымі, хто якраз стараўся, каб аб усім, што ў мясцовым жыцці адбываецца, расказвалася толькі прыўкрашана.

Па незалежных ад ініцыятараў выдання „Сумежжа" прычынах выхад газеты ў свой час быў спынены. У 1998 годзе была спроба адрадзіць справу. Але няўдалая. І вось новая спроба. Думаецца, хочацца спадзявацца, што на гэты раз вітанне будзе надоўга і сувязі чытачоў з газетай стануць трывалымі. Нехта ведае, што ў Паставах ужо ёсць адно незалежнае выданне – „Крэсы", з краязнаўчым дадаткам „Краязнаўца Паазер'я". Гэта так, і яно будзе існаваць. Але апошняе – для цэлага рэгіёну заходніх раёнаў Віцебшчыны, таму ў "Сумежжа" задача больш спецыфічная. Як і ў пачатку дзевяностых ініцыятары выпуску газеты найперш будуць весці з чытачамі размову аб жыцці нашага раёна і горада, аб тых праблемах, якія хвалююць менавіта пастаўчан. Безумоўна, у рэчышчы тых падзей і тых праблем, якія паўстаюць перад усёй нашай краінай. І найперш гэта захаванне нацыянальнага суверэнітэту Беларусі, дэмакратызацыя грамадства, што ў апошні час стала ў нас толькі ілюзіяй, сацыяльны і эканамічны крызіс, які прыводзіць няўхільна да збяднення пераважнай масы насельніцтва правінцыі.

Будуць і надалей у газеты прыхільнікі і непрыхільнікі. Першым мы раім шукаць "Сумежжа", у газеты паранейшаму праблемы з распаўсюджваннем. Другіх запрашаем да палемікі. Яна заўжды прадуктыўней чым проста варагаванне.



## ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ХРОНІКІ

### Спакуслівы яд

Большасць крадзе, бяруць усё, што пападаецца на вочы – такая сёння рэчаіснасць калгаснай вёскі. Таму не дзіўна, што напрыканцы мая супрацоўнікі пастаўскай міліцыі з аддзела барацьбы з эканамічнай злачыннасцю выявілі факт крадзяжу ядахімікатаў жыхаром вёскі Юнькі. Дзіўна, што ён жа – галоўны аграном калгаса "Сцяг Перамогі".

109 злачынстваў, па якіх ўзбуджана 100 крымінальных спраў.Пяць з іх звязаны з крадзяжамі ў асабліва буйных памерах. А колькі яшчэ дробных крадзяжоў засталося без увагі праваахоўных органаў, вядома, напэўна, толькі Госпаду.

### Адным - свята, іншым грандыёзная выпіўка.

Горад рыхтуецца не згубіць свой адметны твар і прыняць V міжнародны фестываль народнай музыкі **"Звіняць цымбалы і гармонік"**. Каб лепей да яго падрыхтавацца, сёлета некалькі адсунены на канец месяца гэты фэст, які пройдзе 15 – 18 чэрвеня. Яшчэ пару гадоў лёс фестываля вісеў на валаску і не знік ён галоўным чынам, дзякуючы настойлівасці былога кіраўніка "вертыкалі", а цяпер нябожчыка В.Чэпіка. Будзе каму і на гэты раз атрымаць асалоду ад начнога феерверка, гарэзлівых мелодый, калі прыедуць музыкі з 10 краін. Праўда, яшчэ нямала землякоў чакаюць фестываль зусім з іншай нагоды. Будзе добры момант, каб на шырокай публіцы "адцягнуцца" па поўнай праграме. У крыві, ці што, вельмі многіх напівацца да беспрытомнага стану. Зрэшты, летась з гарпарку вывезлі пасля свята цэлыя два трактарныя прычэпы пустых і бітых бутэлек.

*(працяг на старонцы 2)*

## Злачынцаў выдалі прыкметы

Апроч высокапрафесійных дзеянняў апергрупы Пастаўскага РАУС на чале з начальнікам крымінальнай міліыі В.Будзічам і іх калег з Шаркаўшчыны дапамог хутка знайсці злачынцаў з нажамі выпадак. Аб нападзе на ўчастковага інспектара Вячаслава Мацюшонка, які нёс службу ў рыбгасе «Навінкі», ведае ўжо ўся краіна. Старшына міліцыі з вопытам працы 13 гадоў не разгубіўся, хоць яму парэзалі нажом форму і левую руку. Прыйшлося прыняміць зброю і нават прастрэліць уцекачам ногі і ягадзіцы. Злачынцаў, нідзе не працуючых ва ўзросце 25, 27 і 49 гадоў, двое з якіх раней судзімыя, узялі той жа ноччу прама з ложкаў па прыкметах у вёсках Радзюкі і Жоўніца. Адзін з іх казах, які мае беларускае грамадзянства. Каб згадзіліся падпісаць пратакол, абмежаваліся б штрафам за незаконную лоўлю рыбы. Зрэшты, нічога тады гора-рыбаловы не злавілі, а могуць сесці ў турму ад 1 да 5 гадоў пазбаўлення волі.

## Пакліканыя служыць людзям

Упершыню за дзесяцігоддзі ранейшага ваяўнічага атэізму ў перапоўненым кафедральным касцёле св.Барбары ў Віцебску прайшло ўрачыстае пасвячэнне ў святары. Прычым адразу пяці нядаўніх выпускнікоў Гродзенскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Блаславілі іх на адказную дзейнасць Госпаду і нашаму народу Папскі нунцый на Беларусі біскуп Дамінік Грушоўскі, біскуп Віцебскай епархіі, святары і вернікі храмаў Пастаўшчыны і іншых 45 касцёлаў, якія дзейнічаюць у вобласці. Абвяшчаць Божае слова ў рэгіёне на роднай мове маладыя ксяндзы будуць у парафіях Полацка, Наваполацка, Лепеля, Мёр, а таксама ў Троіцкім касцёле вёскі Дунілавічы. У апошнім пасля выгнання пастаўскімі ўладамі першага святара Кшыштафа Пажарскага, які зараз служыць у Пецярбургу, за гэты час памяняліся тры пробашчы, якія адначасова займаліся душпастырскай дзейнасцю ў Лучайскім касцёле св.Тадэвуша.

## Вогненны суіцыд.

Рознымі спосабамі добраахвотна адыходзяць на "той свет" нашы суайчыннікі. Але толькі адзінокі 55-гадовы мужчына, пражываючы ў адной з вёсак каля Варапаева, выбраў для сябе 5 чэрвеня самаспаленне з павешаннем. У той лёсавызначальны дзень раніцой суседка здаецца пераканала Івана Т., што не варта яму зводзіць рахункі з жыццём. Аднак вечарам пастух саўгаса "Старадворскі" у паслядоўнасці запаліў сваю лазню, хлеў, а зацягнуў пятлю на шыі ва ўжо пылаючай хаце. Яго труп знайшлі пажарнікі разам з аппаленай вяроўкай. На жаль, такі жудасны выпадак не адзінкавы. Спачатку года на Пастаўшчыне ў агні пажараў часцей па сваёй віне загінула 11 чалавек. Прычым, трое з іх да таго, пакуль згарэць, памерлі ад перадазіроўкі спіртнога.

# АБ ЧЫМ ПІСАЛА "СУМЕЖЖА"

## *Ліпень 1991 года*

"Будзе новы помнік Ільічу – радасна паведаміла чытачам газета "Пастаўскі край". У Паставах і яго ваколіцах грамадзянін Ульянаў ніколі не бываў нават і праездам. За тое згодна яго волі ленінскі ўрад ладна гандляваў мясцовымі землямі. Чалавецтва ведае сёння Леніна...як і арганізатара масавых забойстваў, растрэлаў, ініцыятара стварэння канцэнтрацыйных лагераў, тэрору, нечалавечых жорсткасцей і генацыду.Тады гэта не спыніла чамусці райкам КПБ, калі той прыняў рашэнне ўстанавіць новы, пампезны з бронзы і граніта помнік гэтаму чалавеку. Вядома, за не маленькія народныя грошы… І ў той час, калі большая частка вуліц горада патрабуе добраўпарадкавання, дэфіцыт мясцовага бюджэту складае больш 5 мільёнаў рублёў."

**P.S. Вось тады гэта яшчэ былі грошы, а першы нумар нашай газеты каштаваў 25 капеек і разышоўся літаральна за лічаныя дні, усе 950 экзэмпляраў. На працягу двух стагоддзяў на гэтым месцы раней месціліся унікальныя, адзіныя на Беларусі гандлёвыя рады. Знішчылі іх бальшавікі, як і шмат чаго добрага ў жыцці. Цяпер чорны манумент маем, а вось жывём бедна і цяжка. На гарадскіх ускраінах у непагадзь не прайсці, не праехаць, выбоіны і пыл, ноччу вуліцы амаль не асвятляюцца. Мясцовы бюджэт летась удакладняўся чатыры разы, многія адчулі яго складанасці па затрымках заробкаў, перабоях з транспартам, недахопах паліва. Няўжо, верным ленінскім курсам ідзём, таварышы-кіраўнікі?**

## *Чэрвень 1992 года*

"Як стала вядома з досыць кампетэнтных крыніц, Беларусь акрамя разліковых білетаў Нацыянальнага банка – "зайчыкаў" мае ўжо ўзоры сваіх уласных грошай. Ёсць і замежныя фірмы, якія будуць друкаваць іх. Гэта валюта, як і дзіця, народзіцца за 9 месяцаў. Калі здарыцца, што іншыя рэспублікі выпусцяць свае валюты, то абараняць беларускі рынак будуць нацыянальныя білеты, а пакуль знаходзіцца ў адзінай рублёвай зоне нам выгадна".

**P.S. Літаральна праз месяц Расія выпіхнула былыя саюзныя рэспублікі з гэтай зоны, абараняючы свае эканамічныя інтарэсы. Наша ж валюта нагадвае мёртванароджанага дзіця і ляжыць мёртвым грузам у сховішчах Нацбанка, бо на ёй намалявана не "тая" сімволіка з "Пагоняй". Мясцовы люд у той кастрычнік 92 года тры дні шукаў "зайчыкі", каб купіць хлеба. Літоўцы масава скідвалі нам савецкія грошы. Але і праз восем гадоў на валютным рынку ўсё тая ж некампетэнтнасць і дурасць. Беларускія "домікі" па-ранейшаму ніхто ў свеце не лічыць нармальнымі грашыма. Далей будзе яшчэ весялей, калі гадоў праз пяць будзем мяняць разліковыя білеты на "саюзныя" рублі.**

**Вядзе рубрыку**
**Уладзімір Шык (тэл. 2-20-99)**

# ЗАМОК НА ЦАРКВЕ

Два апошнія месяцы вясны неба не радавала наш рэгіён дажджом. І сустрэўшыся дзе-небудзь на спякотнай вуліцы райцэнтра, два праваслаўныя пастаўчаніны сумна жартавалі:

-Ну што няма дажджу?

-Няма.

-А ці будзе калі?

-Няма ў царкве парадку – няма і ў небе.

Пастаўская Свята-Мікалаеўская царква адносна маладая, сто год. Але ж на гэты час прыпадае шмат падзей, мінулае ўжо стагоддзе было багатым на войны, рэвалюцыі, нашыя мясціны шмат разоў пераходзілі ад адной улады да другой. І ўсё-такі ва ўсе, нават самыя неспрыяльныя часы, царква не зачынялася. А вось мінулы Вялікі пост стаў сапраўдным выпрабаваннем. Большасць часу перад Вялікаднем, самым вялікім святам праваслаўных царква была зачыненая. Ды што там, і пасля Вялікання, у дзень, напрыклад, Міколы, імя якога царква і носіць, службы тут не было.

Няўдзячная справа ўмешвацца ў канфлікт у царкве. Але па-першае, размова пойдзе найперш не пра саму царкву, а пра падзеі вакол яе, па-другое, "закрытыя" тэмы, здаецца, павінны знікаць з нашага жыцця.

Некалькі гадоў у царкве служылі свяшчэннікі: настаяцель, ён жа благачынны пастаўскай акругі, чалавек ужо пенсійнага ўзросту, які ўсё жыццё аддаў службе спачатку ў Расіі, потым на Беларусі і досыць малады яшчэ свяшчэннік, рукапаложаны ў сан адносна нядаўна, а да гэтага інжынер, паходжаннем з адной з палескіх вёсак, якая славіцца на ўсю Беларусь менавіта тым, што дае нам праваслаўных святароў. Сам належу да гэтай парафіі, ведаю абодвух свяшчэннікаў, ды за час канфлікту давялося выслухаць шмат меркаванняў. І перакананы ў тым, што асновай узнікшай сітуацыі, узнікшага канфлікту сталі справы матэрыяльныя, грашовыя. Тут трэба патлумачыць чытачу, што праваслаўны свяшчэннік у сваёй парафіі знаходзіцца ў досыць цікавым становішчы. Як правіла жылля ў яго свайго няма, жыве ён у парафіяльным доме, які набываюць на свае складкі вернікі. І мяняючы царкву, парафію, мяняе свяшчэннік і жыллё. Што ж да заработнай платы, то тыя грошы, якія атрымлівае ён афіцыйна сёння здзівяць любога. Іх, напэўна, хапае толькі на паліва для аўтамашыны. А любому ж свяшчэнніку даводзіцца шмат ездзіць, выконваючы свае абавязкі і просьбы веруючых. Але ні для каго не з'яўляецца сакрэтам і тое, што свяшчэннік можа мець і дадатковы важкі прыбытак. Прычым, напрамую залежыць ён ад памераў парафіі, дастатку людзей, якія ў ёй пражываюць. Між іншым, пастаўская парафія сярод іншых Полацкай епархіі па прыбытках лічыцца адной з лепшых.

Як бы там ні было, але канфлікт узнік. І ад самага пачатку аб ім ведалі ў Полацкай епархіі. У рэшце рэшт уладыка Полацкі і Глыбоцкі выдаў свае распараджэнні, указы, згодна якім стары свяшчэннік з Пастаў быў пераведзены ў вясковую Манькавіцкую парафію,



а малады ў парафію ў суседнім Глыбоцкім раёне. А ў Паставы прызначылі новага свяшчэнніка. Пытанне нібыта вырашана. Але тут узняла голас падаўляючая большасць вернікаў Пастаўскай царквы. Яны патрабавалі вяртання маладога свяшчэнніка. З гэтымі патрабаваннямі звярталіся ў Полацк, Мінск. Да канфлікту прычыніліся мясцовыя ўлады. Больш таго, актывісты з мясцовых вернікаў навесілі на браму царквы свой замок, не дапускалі да правядзення службы назначанага святара.

Напярэдадні Вялікання царква ўсё ж адчыніла свае дзверы. Службу вёў маладзейшы свяшчэннік, чаго і дабівалася асноўная маса вернікаў. Але было гэта нядоўга. Канфлікт атрымаў новае развіццё і на царкве зноў з'явіўся замок, які навесілі актывісты менавіта з вернікаў.

А нядаўна – новыя падзеі. Царква запрацавала зноў. Толькі цяпер у ёй ужо новы святар. Не той, які павінен быць па першаму ўказу ўладыкі Полацкага і Глыбоцкага, а з Варапаеўскай царквы.

Нібыта, кампраміс знойдзены. Уладыка памяняў сваё рашэнне, знайшоў яшчэ адну, нейтральную кандыдатуру, вернікі пагадзіліся прыняць гэту кандыдатуру. Павінны быць задаволеныя і мясцовыя ўлады: няма больш ля замкнёнай царквы шматлікіх натоўпаў вернікаў, не ідуць па кабінетах хадакі.

Але, здаецца мне, што многае яшчэ наперадзе. Дарэчы, згаданы вышэй канфлікт далёка не адзіны ў Полацкай епархіі. Рашэнне епіскапа ў праваслаўнай царкве – вышэйшы закон, яму павінны поўнасцю падпарадкоўвацца не толькі іерэі, свяшчэннікі, але і ўсе вернікі. Але ж, як бачым, часы мяняюцца. Так, праваслаўныя не іудзеі з іх кагалам, які сам сабе выбірае

святара. Ды толькі мінулае дзесяцігоддзе з шматлікімі выбарамі, мітынгамі, галасаваннямі, тым новым, што ўвайшло і ўваходзіць у жыццё былога савецкага грамадства, адыграла сваё і ў свядомасці людзей так ці інакш прылучаных да храма. Як бы там ні было, гэта ўжо не статак, і няма над імі ўлады "пастыраў" адпаведна біблейскай традыцыі.

Некаторыя мае субяседнікі выказваліся за тое, што ў згаданым вышэй канфлікце бачыцца ім немалая небяспека. Калі ты не пратэстант, які аддае перавагу прамому звароту да Бога, а праваслаўны і паміж табою і Богам пастаўлены святар, то павінен мірыцца з гэтым. Ніякіх рэвізій быць не можа, на гэтым і трымаецца моц праваслаўя. Але ж немала маіх субяседнікаў з асяроддзя праваслаўных іерэяў, духоўных асоб зазначаюць, што якраз у праваслаўі таксама ў апошнія гады адбываюцца пэўныя працэсы. Здавалася б, ціск з боку свецкіх уладаў адменены, гэта павінна паслужыць умацаванню царквы. Але шматлікія прыклады гавораць аб адваротным. Вось і падзеі вакол Свята-Мікалаеўскай царквы.

Прыглядаюся да жыцця свайго роднага гарадка. Часы, якія ўмоўна можна назваць "чырвонымі", даўна мінуліся. Ні камуністы, ні іх ідэалагічныя праціўнікі сёння не праяўляюць якой-небудзь выяўнай актыўнасці, ды і нешматлікія яны. Меркавалася б, павінны былі заняць вакуум храмы трох хрысціянскіх канфесій – каталіцкі касцёл, евангелісцкі цэнтр, праваслаўная царква. Тут назіраецца актыўнасць, асабліва ў каталіцкім храме, які збірае найбольш вернікаў. Гуртуюцца людзі і вакол евангелісцкага цэнтра, найбольш з бяднейшых мястэчкоўцаў, тых, каму патрэбна гуманітарная дапамога, наладжаная ў гэтым цэнтры. Пра праваслаўны храм гаварылася вышэй. Але ўсё-такі трэба сказаць, што не сталі яны сапраўднымі цэнтрамі духоўнага жыцця гарадка. На сёння такі цэнтр – нядзельны кірмаш. І здзіўляешся празарлівасці кіраўнікоў мясцовага гандлю, якія ў свой час з немалымі цяжкасцямі, але пабудавалі, стварылі сучасны кірмашовы цэнтр, які сёння практычна не абмінае ніводзін з былых дэманстрантаў пад чырвонымі сцягамі на плошчы імя Леніна і ніводзін вернік з мясцовых храмаў. Ну а падумаць аб душы – гэта для большасці з нас яшчэ наперадзе.

**Алесь Касцень. (тэл.23-135)**

---

Хто ёсць хто.

# ЖЫЦЦЁ ЗА ВЯЛІКІМ ПЛОТАМ

**На палітычным алімпе фігура Аляксандра Лукашэнкі з'явілася досыць даўно. Хутка шэсць гадоў, як павёў ён краіну сваім своеасаблівым курсам да "рынкавага сацыялізму". Але, чым болей прэзідэнт правіць, тым узрастае інтарэс да яго чалавечай персоны. Між тым, пра жыццё Біла Клінтана ці новага расійскага фаварыта Ўладзіміра Пуціна вядома намнога болей, чым пра Аляксандра Рыгоравіча. Мы палічылі гэта няправільным і на аснове размоў са знаёмымі сталічнымі журналістамі, палітыкамі, публікацый "Свободных новостей", "Белорусской деловой газеты" і іншых выданняў распавесці пра жыццё Лукашэнкі і ягонай сям'і. Магчыма, нейкія звесткі не поўнасцю адпавядаюць рэальнасці, але ж не мы вінаватыя, што многае ў Беларусі пакрыта арэолам сакрэтнасці.**

***Забыты родны кут.***

Ужо заўважана, што на сваёй малой Радзіме ў вёсцы Александрыя, што ў Шклоўскім раёне, кіраўнік дзяржавы заяўляўся вельмі рэдка. Зрэшты цяпер вёскай паселішча можна назваць толькі ўмоўна. Ідэальныя дарогі, прывабныя катэджы, сучасная школа, еўрарамонт у магазіне з амаль гарадскім асартыментам прадуктаў і тавараў – гэта больш нагадвае пасёлак гарадскога тыпу. Засялялі Александрыю ў перыяд калектывізацыі, калі сюды прыехаў дзед Лукашэнкі з сям'ёй. Пасля вайны маці будучага прэзідэнта, як і астатняя моладзь, у пошуках лепшай долі дала дзёру з калгаса ў бліжэйшы горад Оршу.

Дабротны аднаэтажны цагляны домік, дзе да нядаўняга пераезда да сына жыла маці Лукашэнкі, размаляваны ружовай фарбай. Вакол будынку круглыя суткі дзяжурыць міліцэйская машына. Міліцыянты растлумачылі карэспандэнту, што сустрэцца з жанчынай магчыма толькі пры наяўнасці дазволу Савета бяспекі. Такога дазволу за пяць гадоў прэзідэнцтва Аляксандра Рыгоравіча ніхто не атрымліваў. Фота і відэаздымкі вакол радавога гнязда беларускага лідэра таксама забароненыя. Хто паспрабуе зрабіць гэта цішком, мае шанц апынуцца ў пастарунку для высвятлення асобы, будзе засвечана яго плёнка, або адабрана касета.



Плот абараняе ад цікаўных Галіну Радзівонаўну

Калі летась сюды наведаліся журналісты "БДГ", мама саноўнай асобы з цікавасцю сачыла, як да яе не дапускалі прэсу, седзячы на лаўцы ў адзіночку. Знешне яна вельмі падобная на сына. Ужо многія калегі пераканаліся, што ў апошнія гады нельга разгаварыць і суседзей, мясцовых жыхароў. Людзі відаць, цвёрда засвоілі атрыманы інструктаж і шарахаюцца ад карэспандэнтаў з дыктафонамі. У іншым выпадку пра хлопчыка Сашку успамінаюць выключна ў станоўчых характарыстыках: як ён старанна вучыўся і не біў баклушы ў школе. І як імкнуўся дапамагчы на ферме і па доме матулі, любіў працаваць і зусім не рос хуліганам... Мой дапытлівы знаёмы бачыў тут раней іншую сціплую хатку, у якой налічвалася толькі тры акны.

***Апусцелы сямейны дом.***

Не менш вядомая ў краіне і вёска Рыжкавічы, размешчаная нават бліжэй да Шклова, чым тыя Юнькі да Пастаў. Вакол дома, у якім жыве адзінока першая ледзі дзяржавы Галіна Радзівонаўна, таксама пабудаваны высокі цагляны плот За ім бачны цёмныя таніраванага шкла вокны тыповага доміка былога дырэктара саўгаса. Толькі незвычайна, што

гэта хата ў метрах 150 ад жывёлагадоўчай фермы, дзе вядома якія бываюць пахі. Жонку прэзідэнта днём і ноччу ахоўваюць міліцыянты, для якіх (каб не сумавалі) спецыяльна на вуліцу вывелі радыёкропку. Сяброўства маладых людзей, перарослае ў каханне, пачалося з вечара ў школе, дзе яны былі Дзедам Марозам і Снягуркай. Але гэта было вельмі даўно.

**"Во-первых, я не хочу говорить на эту тему. Во-вторых, последнее время я вообще не общаюсь с журналистами: с ними поговоришь, душу откроешь, а они потом напишут неправду. Поэтому вы уж меня извините, но отвечать на ваши вопросы я не буду"**,- сказала супрацоўніца раённага прадстаўніцтва па аздараўленню насельніцтва. Пасля кпінаў у прэсе жонка прэзідэнта ўжо не мае сваёй каровы Мілкі і не працуе ў дзіцячым садку. На працу ходзіць пешшу 3 км. У ейных словах, аддаючых стомленасцю нейкай, звярніце ўвагу на прыярытэт выразаў.

***Вы чулі, як пяюць дразды?***

Насельнікі вядомай свету пасля скандалу з замежнымі пасламі рэзідэнцыі "Дразды" чуюць зусім не гэтых птушак. Дзесьці побач мясціцца мясцовая птушкафабрыка, што нагадвае сельскую ідылію. Але жыць у гэтай лясістай мясцовасці недалёка ад сталіцы зручна і прыемна. Пасля рэканструкцыі там з'явіліся акуратная прасторная саўна, 25-мятровы закрыты басейн, трэнажорная зала з сучасным спартыўным абсталяваннем. Гэтай базай могуць карыстацца ўсе жадаючыя, уключаючы самага галоўнага жыльца.

Ягоныя апартаменты знаходзяцца за другім унутраным кальцом. Унутраны плот існаваў і раней, аднак пасля рэканструкцыі стаў суперсакрэтнай і закрытай зонай. Ніякіх здымак, фота і відыакамер не павінна быць. Тэрыторыю пільна праглядаюць скрытыя фотакамеры і адразу фіксуюць кожнага цікаўнага. Супрацоўнікі прэзідэнцкай службы аховы дзяжураць і ўнутры памяшкання, дзе вечарам пасля працоўнага дня з'яўляецца абаронца славянскага адзінства. Асабіста неяк летам давялося чакаць, калі прыляціць па трасе ягоны браніраваны "Мерседэс". Усе дарогі на такі момант перакрываюцца даішнікамі спецпадраздзялення "Страла", якія былі заўважаны і ў Паставах.

Жыве прэзідэнт у драўляным двухпавярховым доме. На першым паверсе – сталовая, гасціная, кухня. На другім – службовы кабінет, жылыя пакоі, спальні. Пакояў – сем-дзесяць – так ацэньвалі жылплошчу Лукашэнкі інфарматары. Унізе на цокальным паверсе ягоная саўна. Інтэр'ер пакояў выкананы ў еўрапейскім стылі – светлыя сцены, няшмат мэблі, зялёныя расліны.

***Есці пададзена!***

Прыкладна так прэзідэнта і ягоных гасцей запрашаюць да абедзеннага стала дзве афіцыянткі, якія быццам і пакаёўкі. Вараць стравы першай асобе два повары-жанчыны перадпенсійнага ўзросту. Першымі ежу па інструкцыі абавязкова дэгустуюць вызначаныя супрацоўнікі аховы.

Расказваюць, што ў ежы беларускі лідар непераборлівы і аддае перавагу малочным стравам – супам, сырнікам, блінам, а таксама смятане, ёгурту, тварагу. Яшчэ вельмі любіць есці жараную рыбу і драныя бліны, а вось наконт чорнай ікры ў прыхільнасцях не быў заўважаны. Харчуецца і нават ездзіць з Мінска ў Дразды абедаць пастаянна ў сваёй рэзідэнцыі. Толькі калі шмат дзяржаўных спраў, яму прыносяць абед са сталовай адміністрацыі.

Меркаванне аб ім, як аб ворагу гарэлкі, не адпавядае рэчаіснасці. Нядаўна ў полі пад Прахараўкай Лукашэнка нават гарэзліва заявіў перад тэлекамерамі РТР, што закусвае ён толькі пасля трэцяй чаркі. Звычайна пасля штодзённых трэніровак любіць выпіць халоднага беларускага піва. Не адмаўляецца ў кампаніі рэдкіх сваіх сяброў ад чаркі-другой класнай айчыннай водкі "Усяслаў Чарадзей". Сярод каньякоў акрамя нашага "Карсара" у павазе армянскія не аднаго года вытрымкі. Віны звычайна чырвоныя, малдаўскія.

***Касцюмчык ладненька прыгнаны.***

Тыя пастаўчане, што неяк сустракалі Лукашэнку на плошчы райцэнтра, добра прыкмецілі, што апранаецца ён з іголачкі. Адыйшло ў нябыт, як яму, тады бясстрашнаму барацьбіту з карупцыянерамі ўсіх масцей, парвалі міліцыянеры ў калідоры Саўміна адзіны светлы лепшы касцюм. Зараз у прэзідэнта гардэроб у дзесятак шыкоўных нарадаў, пашытых ва ўрадавым спецатэлье. Некалькі касцюмаў набыта ў Францыі. Калі дазваляе пратакол, Аляксандр Рыгоравіч з задавальненнем апранаецца ў спартыўныя касцюмы, швэдры, красоўкі і нават шорты. Толькі мала такой вольнай будзёнасці. Ягонае хоббі мець розныя гальштукі, якія з задавальненнем даюць у падарунак блізкія людзі і сябры. Толькі спачатку яму раілі, што апранаць на той ці іншы момант, супрацоўнікі службы пратакола. Цяпер сам у гэтым разбіраецца.

***Спорт – асноўная любоў.***

Пра гэтае ягонае захапленне ходзяць легенды і пішуць тоўстыя часопісы. Дзе яшчэ ў свеце ёсць кіраўнік, які ўстае з пасцелі ў 6 гадзін раніцы і пачынае працоўны дзень з 10-12 кіламетровай прабежкі на ролікавых лыжах. У дрэннае надвор'е каля гадзіны плавае ў басейне. Але гэта яшчэ не ўсё. Перш тройчы ў тыдзень па некалькі гадзін гуляў у вялікі тэніс. Апошнім часам толькі хакей. Панядзелак, чацвер, субота – па дзве гадзіны ганяе шайбу ў даспехах вагой каля 15 кілаграмаў без усялякай аддухі з перапынкам на 15 хвілін. Побач пыхцяць ад такой "радасці" саратнікі. Такіх нагрузак не бачыў у сваім жыцці нават славуты Павел Бурэ. А нашаму правадыру хоць бы што.



Заўважу, што такое яшчэ з інстытута засталося. Там у інтэрнаце ён таксама ўставаў рана і бегаў кросы 5 км. А яшчэ гуляў у футбол, ручны мяч. І нават, узгадваюць аднакурснікі, бароўся. Вось бы калі з самім Пуціным сысціся на барцоўскім дыване. З-за болей зараз перастаў гуляць у футбол, сочыць за важнейшымі матчамі па тэлебачанні. Вось толькі наша зборная прайграе нават мініяцюрнай Андоры. Хацелася б, а, пэўна, прыйдзецца адкласці паездку на летнюю Алімпіяду. Ведае, што тамтэйшыя беларусы сустрэнуць няветліва ды зноў будзе крытыкаваць за вяж "нячэсная" прэса, як гэта здарылася пасля Нагана.

***Шчаслівы ці ён?***

Познім вечарам любіць чытаць газеты, глядзець тэленавіны. Яшчэ неабходна праглядзець шэраг дакументаў. І вось нарэшце гэты неяк раптам пастарэўшы і ўжо сівы з лысінай чалавек застаецца адзін на адзін з сабой. Думкі розныя лезуць у галаву. Не мае душа спакою. Разважае, а ці так усё зрабіў? Ці добра жывецца з такімі пачуццямі нават на вяршыне абсалютнай улады? У кожнага з вас, напэўна, ёсць адказ на вечнае пытанне жыцця.

Падрыхтаваў

**Уладзімір Шык (тэл.2-20-99).**

# КАЛІ ВЕРНУЦЬ АДАБРАНАЕ?

**Зварот да прэзідэнта ЗША**

**М.Чарэнка, г.Паставы**



У мінулым годзе ўрад РБ звярнуўся да ўрада ЗША з просьбай аб дапамозе ў сувязі з крызісам у сельскай гаспадарцы. І вось у адпаведнасці з Канстытуцыяй РБ, у якой сказана, што грамадзяне і дзяржава маюць роўныя правы, я рашыў звярнуцца праз вашу газету да прэзідэнта ЗША. У адрозненне ад урада РБ, я не прашу матэрыяльнай дапамогі, а толькі дапамогі ў аднаўленні законнасці і справядлівасці, а менавіта каб адной з умоў прадастаўлення дапамогі РБ было падпісанне і ратыфікацыя РБ, адной з краін-заснавальнікаў ААН, прынятай гэтай арганізацыяй у 1985 годзе "Дэкларацыі асноўных прынцыпаў правасуддзя для ахвяр злачынстваў і злоўжывання ўладай". Грамадзяне РБ, якія падвергліся ў гады Савецкай улады маёмаснай дэскрымінацыі (адыманню ўласнасці без судовага рашэння і выплаты кампенсацыі), да гэтага часу не прызнаюцца заканадаўчай і судовай уладамі ахвярамі рэпрэсій.

Пан прэзідэнт, звяртаючыся да Вас, хачу сказаць, што ў адрозненне ад урада РБ, які сваімі дзеяннямі ў Драздах нанёс матэрыяльны і маральны ўрон ЗША, я маю маральнае права звярнуцца да Вас за дапамогай, так як ЗША – краіна, створаная працай мільёнаў людзей усяго свету, у іх ліку быў і мой дзядуля Рамановіч С.І., малазямельны селянін з вёскі Кураполле Пастаўскага раёна, які ў пачатку стагоддзя звыш дзесяці гадоў адпрацаваў на шахтах і заводах ЗША, дзе стаў інвалідам (страціў вока), дзе да гэтага часу жывуць нашы дальнія сваякі (яго сястра, што выйшла замуж за эмігранта-беларуса, да канца 50-х дапамагала пасылкамі нашай сям'і ). Дзядуля, вярнуўшыся з Амерыкі, жаніўся, купіў 15 сотак зямлі і пабудаваў у Паставах дом для сваіх шасці дзяцей.

У 1939 годзе з прыходам камуністаў у Заходнюю Беларусь адбылася трагічная несправядлівасць: мой дзядуля, як і дзесяткі іншых грамадзян, падвергліся насіллю, у яго адабралі дом. У 1940 годзе камуністы, прыкрываючы свае злачынствы, выдалі пастанову СНК ад 10 мая 1940 года "Аб муніцыпалізацыі і нацыяналізацыі збудаванняў на тэрыторыі заходніх абласцей БССР", згодна якому грамадзяне, што мелі звыш 32 кв.м на сям'ю фактычна аб'яўляліся злачынцамі і высяляліся ў часовыя збудаванні і хлявы.

У 1956 годзе пасля XX з'езда, верачы, што наступілі іншыя часы, ён напісаў у ЦК КПСС, каб вярнулі адабраны дом, бо з той пары ён жыў у хляве. Але замест адказу яго выклікалі куды трэба і папярэдзілі: будзеш займацца антысавецкай дзейнасцю, ставячы пад сумненне рашэнне Савецкай улады, трапіш туды, куда не трапіў у 1939 годзе.

Наступілі 90-е гады, абвешчана незалежнасць РБ, прынята Канстытуцыя РБ, але палітыка маёмаснай дыскрымінацыі грамадзян з боку дзяржавы працягваецца. У 1990 годзе ВС 12-га склікання прымае палажэнне "Аб парадку аднаўлення правоў грамадзян, якія пацярпелі ад рэпрэсій у 20 – 50 гадах", пункт 6 якога гаворыць: "не падлягаюць вяртанню (кампенсацыі) жылыя дамы і іншыя збудаванні, якія былі нацыяналізаваныя альбо падлягалі нацыяналізацыі на падставе заканадаўства, якое дзейнічала ў той перыяд часу", тым самым заканадаўчая ўлада прызнала дзеянні дзяржавы законнымі.

У 1991, 1997 гг. у Паставах прайшлі два судовыя працэсы паісках грамадзян да мясцовых органаў улады аб вяртанні незаконна забранай маёмасці, на якіх суддзі адмовіліся прызнаць грамадзян ахвярамі рэпрэсій і запатрабавалі выплат за прыбудовы, зробленыя да збудаванняў, адмовіліся разглядаць заявы грамадзян аб выплаце матэрыяльнага і маральнага ўрону, якія яны панеслі ў выніку дзеянняў дзяржавы. І калі на першым судовым працэсе ў 1991 годзе, які ініцыіравала мая сям'я, мы адмовіліся выканаць несправядлівае патрабаванне суда – выплаціць 6000 рублёў, да нас быў прыменены тэрмін іскавай даўнасці. У іску адмоўлена, а будынкі прададзены камерцыйным структурам без конкурсу па астатkаваму кошту.

У 1997 годзе сям'я гр-на Камышава, пенсіянера і ўдзельніка ВАВ, пасля таго як на працягу некалькіх год пастаўскі суд адмаўляў у іске іх сям'і аб вяртанні будынка былога дзяржбанка з незаконнага валодання, дабілася свайго з дапамогаю прэсы, і суд прыняў іх іск да разгляду і вярнуў будынак законным уладальнікам, адмяніўшы ўсе здзелкі і прыватызацыю, каторыя былі зроблены з гэтай маёмасцю.

Але як і з нашай сям'і суд запатрабаваў ад гр-на Камышава, праліваўшага кроў пры абароне Айчыны ў гады ВАВ, выплаціць суму ў 2000 даляраў за прыбудову і, зноў жа, адмовіўся разглядзець заяву аб выплаце матэрыяльнага і маральнага ўрона, прычыненага дзеяннямі дзяржавы. Тым самым суды паказалі, што яны сталі на бок мясцовых органаў улады.

Пан прэзідэнт, зварот урада РБ да ўрада ЗША, пасля таго як Лукашэнка разарваў адносіны з Саветам Еўропы і грамадзяне РБ аказаліся пазбаўленымі магчымасці звяртацца ў еўрапейскі суд па правах чалавека, маюць рэальныя шансы дапамагчы грамадзянам РБ, якія падвергліся маёмаснай дыскрымінацыі, у першую чаргу старым, якія ідуць з жыцця, так і не дачакаўшыся справядлівасці.

***АД РЭДАКЦЫІ "СУМЕЖЖА":***

Перадрукоўваючы ў перакладзе на беларускую мову з газеты "Свободные новости" гэты ліст пастаўчаніна, мы павінны адзначыць, што інтэрпрэтацыя аўтарам некаторых фактаў у лісце рэдакцыя "Сумежжа" не падзяляе. Але ж галоўнае, што паслужыла прычынай змяшчэння ліста ў нашай газеце – сама праблема, аб якой ідзе гаворка. Зразумела, зварот да прэзідэнта ЗША тут сімвалічны, зроблены ад таго, што чалавек, як і многія іншыя, страціў надзею дабіцца адмены той несправядлівасці, якая была здзейснена над яго продкамі, якая і сёння не дае супакою.Таксама зразумела, што прычынай напісання ліста стала не столькі жаданне вярнуць маёмасць, колькі менавіта прага справядлівасці. Быў пэўны перыяд, калі людзі паверылі ў тое, што з афіцыйным асуджэннем нашага камуністычнага мінулага можна чакаць і рэальных крокаў па рэальнаму вяртанню людзям і годнасці іх правоў і таго, што бессаромна было адабрана ў імя высокіх ідэй сацыяльнай справядлівасці. Але аказалася, што нашчадкі тых, хто з рэвальверамі ў руках выганяў людзей з іх хат толькі з-за таго, што хаты гэтыя спатрэбіліся пад шматлікія савецкія канторы, і не думаюць дабівацца рэальнай справядлівасці і рэальнага вяртання да нормаў міжнароднага, чалавечага права.

Справа Камышава, вяртанне гэтай сям'і дома іх бацькі, адабранага ў 39-м - выключэнне. І аўтар ліста памыляецца ў тым, што прэса дапамагла сваімі выступленнямі. Былі

выступленні прэсы, але на іх цяпер мала звяртаюць увагі. Дапамог збег абставін. Першае, на працягу пяці гадоў прайшоўшы ўсе магчымыя інстанцыі ў нашай краіне, Камышаў нечакана знайшоў падтрымку ў аднаго з прадстаўнікоў мінскіх уладаў. І пасля гэтага справай зацікавілася мясцовая пракуратура і іск быў прыняты да разгляду раённым судом. Другое, само адбіранне дома ў сям'і адбылося ў 1939 годзе яшчэ да прыняцця сумна вядомага закона мая 1940 года "аб муніцыпалізацыі".

Не знайшлося нават ніводнага дакумента, які б гаварыў аб рашэнні "муніцыпалізіраваць" гэты дом. Тагачасныя ўлады палічылі, што дастаткова рэвальвера. А была б паперка з "рашэннем", і наўрад ці б былы банк дастаўся нашчадкам. Тым больш, што на яго ўжо паклалі тады вока людзі ў Паставах уплывовыя.

Несправядлівасць застаецца, гняце людзей. І такіх, як Чарэнка, у Паставах нямала. Між тым праблемы жылля нараджаюцца і сёння. Мы бачым, як рэзка падзяляецца мясцовае жыхарства: на тых, хто яшчэ пакутуе ад адсутнасці нармальнага жылля і на тых, хто ўжо мае гэтага жылля зашмат настолькі, што з'явіся ў нашым часе бальшавік з рэвальверам узору саракавых гадоў, ён бы проста застрэліўся ў роспачы. Высяляць трэба цэлыя мікрараёны, у тым ліку і грамадзян, якія да гэтага часу маюць ля сэрцаў білеты камуністычнай партыі.

Аб адным з бакоў гэтай праблемы ў артыкуле ніжэй.

***Алесь Касцень. (тэл. 2-31-35)***

## З залы суда

10 травеня 2000 г. у Кастрычніцкім судзе Віцебска адбылося 3-е слуханьне грамадзянскай справы па зыску сп. Ластоўскай Л.П. з Паставаў да Управы унутраных справаў Віцебскага аблвыканкама і Першамайскага РАУС за незаконнае адміністрацыйнае затрыманьне. Лідзія Паўлаўна безпадстаўна была дастаўлена ў Першамайскі РАУС 8 травеня 1999 г. у час кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі разам з В.Шалухіным, старшынём абласной камісіі і К.Жэляпавым, кіраўніком Віцебскага аддзялення ГА "Фонду імя Л.Сапегі". Па гэтай прычыне яна падала заяву на кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры 700 і 500 тысяч рублёў ад Управы і РАУС адпаведна. Затрымліваў Ластоўскую і апекаваўся ёю ў пастарунку яе зямляк падпалкоўнік Кісялёў С.М.

Пасьля дастаўкі ў РАУС Лідзія Паўлаўна правяла там каля 5 гадзінаў і страціла магчымасьць здзейсьніць запланаваныя на гэты дзень асабістыя справы.

Пры разглядзе справы суддзёй Бялясавай Л.Я. высьветлілася, што на сп. Ластоўскую ў дзень дастаўкі у РАУС не было складзена пратаколу аб адміністрацыйным затрыманьні і рапарту аб здзяйсьненьні правапарушэньня. З пастаўчанкі былі толькі ўзяты тлумачэньні. Гэтая акалічнасьць Управай ўнутраных справаў была прызнаная парушэньнем службовай інструкцыі з выцечным адсюль службовым спагнаньнем на падпалкоўніка Кісялёва, але затое дала магчымасьць сьцьвярджаць адказчыку, што Ластоўская была дастаўлена ў пастарунак дабраахвотна.

Суддзя Бялясава Л.Я. перанесла разгляд справы на 13 травеня з запрашэньнем дадатковых сьведкаў з абодвух бакоў, прычым час для жыхаркі Паставаў зноў прызначаны вельмі нязручны – 8.00 раніцы. У якасьці законнага прадстаўніка ў судовым паседжаньні прымаў удзел сябра віцебскага аддзяленьня праваабарончага цэнтра "ВЯСНА".

**Інфармацыя ад ВА ГА "Фонд імя Льва Сапегі"**

## АБ ЧЫМ ПІСАЛА "СУМЕЖЖА"

**Чэрвень 1992 года.**

"Наша шматпакутная рэспубліка, напэўна, адзіная сярод былога Саюза ССР, дзе ідэі дзяржаўнага суверэнітэту і нацыянальнага Адраджэння ўспрымаюцца скептычна, а рэальныя крокі ў іх накірунку байкатуюцца як заканадаўчымі, так і выканаўчымі органамі практычна на ўсіх узроўнях. Наша абыякавасць да палітычных працэсаў можа прывесці да бяды куды большай, чым нястача тавараў ці рост цэн. Па вялікаму рахунку, сёння перад народам рэспублікі стаіць адзінае, але вельмі важнае пытанне: ці не быць незалежнай, прававой і цывілізаванай дзяржаве Беларусь?"

***P.S.Пытанне, на жаль, зноў вострае, хоць мы мелі за гэты час ужо дзве Канстытуцыі. І ў народа ніхто не пытаецца, дзе і з кім яму будзе лепей жыць. Разумныя людзі заўсёды перш-наперш добраўпарадкоўвалі свой дом, а з суседзямі жылі ў дружбе і згодзе. Пад чужую дудку трасціся выбар слабых і няўмелых, ні да чаго не вартых людзей. Няўжо ўсе мы такія?***

**Чэрвень 1993 года.**

"Як заўсёды, у Паставах гараджан непакояць чарговыя незразумелыя прамаруджванні з атаварваннем талонаў на цукар. Доўга яго не маглі атрымаць людзі за май. У рэшце рэшт атаварванне гэтым няшчасным кілаграмам пачалося, але ўжо па новай высокай цане. Між тым у ваенных гарадках праз магазіны ваеннага гандлю вайскоўцы купляюць яго за чэрвень менш чым па 100 рублёў за кілаграм.

Многія імкнуцца ўкласці з кожным днём абясцэньваючуюся беларускую валюту ў долары. Але набыць яе ў Паставах можна толькі ў прыватных асоб, а так неабходна ехаць у Мінск, Маладзечна, можна Вільнюс і іншыя гарады, дзе камерцыйныя банкі маюць свае пункты продажы долараў і нямецкіх марак".

***P.S. Варта ўзгадаць, што тады 1 долар прадаваўся ў межах 1500-1814, а куплялі "зялёныя" за 1240-1300 рублёў за адзін. Нічога не змянілася за гэты час у лепшы бок. Долары маюць толькі нямногія грамадзяне. Стабільнасць і ў тым, што за шчасце лічаць людзі прыдбаць мяшок цукру. З ім нейкім чынам раз-пораз у гандлі здараюцца дзівосы і толькі на рынку салодкага прадукту хапала. Цікава, што вясна 1993 года была, як ніколі, засушлівая, а палі, як і зараз, адчувалі дэфіцыт вільгаці. Лёсам, пэўна, наканавана беларусам наступаць на адны і тыя ж граблі.***

**Вядзе рубрыку Уладзімір Шык (тэл. 2-20-99)**

Дзень за днём

# КУДЫ НІ КІНЬ – АДНЫ ПРАБЛЕМЫ.

"Жыццё – у працы" – так проста назвала адну са сваіх публікацый папулярная мясцовая газетка. Такім жа напружаным, нялёгкім для пастаўчан абяцае быць сезон летніх водпускаў. У нашай краіне ні старым, ні малалым у самую цудоўную пару года не дадуць умовы жыцця і ўлады – школьныя, калгасныя, раённыя адпачыць так, як гэта робяць людзі ў нармальных краінах. Зрэшты, там на Захадзе і працуюць, каб добра жыць. На Беларусі ўсё наадварот: чым больш жывеш, дык дзеля адной працы. Але давайце спусцімся на грэшную, як кажуць, зямлю і ўспомнім, што адбывалася ў нас апошнія некалькі тыдняў.

У райцэнтры прымалі нават эстафету пагранічных войскаў краін СНД. Тая супольнасць сёння зусім дыхае на ладан, а бач ты, знайшоўся нейкі палітрук і выдумаў, каб амаль два месяцы тысячы кіламетраў вазіць артылерысцкую гільзу. Нават цэлы ваенны парад з гэтай нагоды арганізавалі ў Брэсце. У сталіцы таксама такі выхад ваеннай тэхнікі на пару з трактарамі і фізкультурнікамі правялі. Гэта не важна, што каштаваў ён суму ў сотні тысяч даляраў. Чаго не зробіш дзеля рэкламы Вярхоўнага галоўнакамандуючага.

Пышныя ўрачыстасці з нагоды Дня Перамогі і чырвонага Першамая-Вялікадня прайшлі і ў Паставах. Спяваў, гудзеў мясцовы люд і піў. Толькі пасля таго фэсту цэнтральная плошча ўзгадвала гару смецця, падобна як у айчынным рэкламным роліку. Абышліся без грамадзянскіх паніхід на могілках на Радаўніцу, куды ў адрозненне ад звычайных дзён быў арганізаваны нармальны падвоз людзей. Майскія выхадныя, як і раней, большасць з нас правяла на ўдарнай працы. Інакш нельга, прапалзеш, або пакладзеш зубы на паліцу.

Толькі не зразумела, чаму ў нас так многа гавораць пра нейкую стабільнасць, спакой і мір у краіне. Цэны ў Беларусі паводле данных Міністэрства статыстыкі і аналізу з пачатку года ўзраслі на 44,7 працэнты. Гэта так сёння народная ўлада клапоціцца аб сваім народзе. Цікава ведаць, што калі наш уладар прыйшоў да ўлады хлеб шэсць гадоў назад каштаваў …3 рублі, а сёння (правільна) ужо 106000 рублікаў. Нёслабы такі скачок адразу ў 35333 разы! Але што да гэтага простым вясковым бабулькам-пенсіянеркам, якія любяць, як ён "пекна" гаворыць, пенсіі ім дае. Ды і нічога лепшага нідзе не відаць.

Праўда, выбіраць мы будзем пазней. Дэпутатаў "палаткі" дык ужо сёлета пад зіму. Напрыканцы мая да нас прыехала іх нават цэлая група на чале са старшынёй аграрнай камісіі таварышам Куцко. Сёння ж калгасны лад – фундамент дзяржаўнай улады на вёсцы. Нічога, што тая ледзь жыве, галоўнае, каб карміла гарады і падтрымлівала ўладу. Але справы там ідуць усё горш і горш. На сярэдзіну месяца ў раёне больш паловы – 13 гаспадарак "мінусавалі" да ўзроўню леташняга года. Надоі асобных ад 3 да 6 літраў выклікалі горкі смех. Для параўнання, у Докшыцкім племзаводзе "Порплішча" статак дае ў суткі па 22 літры на карову, а дзве рагулі па 45 кг, як звычайна ў перадавой Еўропе. Нехта скажа, зноў вы пра гэты дзікі Захад.

У чарговы раз наш "бацька" на так званым дыялогу –маналогу ківаў у кампаніі "чырвоных" генерала Баранкевіча і шэфа КПБ Чыкіна праклятым буржуям, што не дазволіць умешвацца ў беларускія справы. І так крыўдаваў, што не ацанілі за бугром ягоны жэст аб змякчэнні пакарання Чыгіра. Хутка, як па камандзе, дзяржаўны абвінаваўца па "справе" пракурор, дарэчы глыбоцкіх каранёў, Віктар Жынгель сказаў, што рэспубліканская пракуратура апратэставала гэты прысуд былому прэм'еру. На думку разумных людзей, удзел Лукашэнкі ў грамадска-палітычным дыялогу з сабакаводамі, аматарамі кніг і іншымі дзеячамі – чарговае рэкламнае шоу па тэлебачанні. Такіх выступленняў было ўжо занадта многа, а толку?

У кароткім аглядзе бягучых падзей немагчыма ахапіць безліч розных фактаў адыйшоўшай вясны апошняга года тысячагоддзя. Вы не заўважалі, што чамусці пераважалі чорныя адценні. Накont той галавіны трагедыі на Нямізе, дзе было затаптана натоўпам 53 суайчыннікі, у асноўным маладыя. Як бы ні складвалася жыццё, 389 выпускнікоў-пастаўчан заканчваюць неўзабаве сярэднія школы раёна. Па краіне ў дарослае жыццё адпраўляцца 88 тысяч. Рэальнасць такая, што месцаў не хопіць у ВНУ, тэхнікумах-каледжах, прафтэхвучылішчах прыкладна для 10 тысяч юнакоў і дзяўчат.

Таму пажадаем, каб нашы юныя паспяхова здалі выпускныя экзамены, правільна разлічылі свае сілы і веды і знайшлі сябе ў патрэбнай прафесіі. Поспехаў і ўдачы ў жыцці вам, сябры! У завяршэнне нашага-першага агляду падзей прыгадаем адным радком асобныя найбольш важкія майскія:

Майстар спорту Вадзім Власаў з Пастаў стаў лепшым у Беларусі на турніры па культурызму ў самай шматлікай вагавай катэгорыі да 70 кг.

Няўрымслівы А.Валодзька ў калгасе імя Суворава запусціў у працу адну з першых у краіне перасоўных нямецкіх дажджавальных установак.

Родныя і калегі развіталіся з трагічна загінуўшым на рыбалцы доктарам райбальніцы Г.Мядзелка, якога доўга не адпускалі воды Задзеўскага возера.

Знакаміты ансамбль народнай музыкі "Паазер'е" пацешыў гледачоў канцэртамі пад час святкавання 725-годдзя латвійскага горада Даўгаўпілса.

У Варапаеве прайшла выязная сесія райсавета дэпутатаў з аглядам аб'ектаў пассавета, дзе да прыезду гасцей наводзілі марафет.

Будоўля-доўгабуд у Касцянях, дзе раней стаялі ракетчыкі, атрымала назву "Ветразь" і шосты год рыхтуецца прыняць чарнобыльскіх дзетак для аздараўлення ў лесе.

На палях і сенажацях вяскоўцы і гараджане распачалі касавіцу.

Прэзідэнт Украіны аб'явіў аб закрыцці сёлета перад Калядамі Чарнобыльскай АЭС.

З 29 мая беларусам адмянілі бязвізавы ўезд у Чэхію.

Пахавалі двух слынных людзей: Алега Яфрэмава і ўрача-афтальмолага С.Фёдарава, а вось зорная пара Пахмутава-Дабранраваў моцна разбілі галовы на шашы пад Яраслаўлем.

Афганскі рух "Талібан" паабяцаў Маскве "Чорнымі наступствамі", калі наша саюзніца Расія нанясе па яго тэрыторыі ракетна-бомбавыя ўдары.

Кітайскі інжынер Ван Цзюнь у 23 гады выйграў 1 млн.долараў у латарэі па Інтэрнэце.

Мардовію засыпала ў маі снегам, нас зноў выпрабоўвае засуха пасля замаразкаў.

САВА ЯРЛЫКОЎ.

Заснавальнік і рэдактар

**Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84. E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 299 асобнікаў.
Надрукавана на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» г. Наваполацк